Год VI. ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ 1928. Кніжка 4—5 (14-15)




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.



**Зьмест:**



Друкарвіа С. Бэккера, Вільня вул. Субач 2.

# САХА

Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.




## Да чытачоў.

Цяжкія матэрыяльныя абставіны рэдакцыі і зьмена складу апошняй у сувязі з арыштам рэдактара і кіраўніка „Сахі“ грамадзяніна У. Павалковіча не дазволілі да гэтага часу акуратна выдаваць часапіс, а роўна выслаць вясной абяцаных пробаў заводскага насеньня. Цяпер паклікаты ў склад рэдакцыі новыя фаховыя сілы, што дае магчымасць ізноў выдаваць „Саху“ акуратна і ісьці на спатканьне жыцьцёвым патрэбам нашае вёскі і наагул дробнае сялянскае гаспадаркі. Дабрабыт нашага гаротнага гаспадара будзе і надалей нашай мэтай. Будзіць яго ад сну, зацікаўліваць нашу вёску новымі палепшнымі способамі вядзеньня сельскае гаспадаркі пры сучасных умовах жыцьця ў Заходняе Беларусі, даваць яму практычныя парады, якія-бы не вымагалі ад нашае агалочанае гаспадаркі шмат затратаў і аднача́сна вялі-б яе да інтэнсыфікацыі—вось заданьне, якое сабе паставіла рэдакцыя, і да якога ў меру сваіх скромных сіл мы мусім хаця і з паволі, але ўпорчыва і паступова ісьці.

Заклікаем усіх нашых паважаных падпішчыкаў і чытачоў, а раўна і усіх прыхільнікаў адраджэньня сельскае гаспадаркі ў нашае старонцы паддзяржаць рэдакцыю падпіскай, кооптаваньнем новых падпішчыкаў і чытачоў, парадамі, і г. д. Сумесная праца сялян і рэдакцыі дапаможа нам хутчэй знайсьці шлях, па якому мы мусім павясьці наша раднае зямляробства да вызваленьня з яго кволага становішча.

Спадзяёмся, што наш гарачы заклік знойдзе водгук у сэрцу нашага чытача, які не астанецца безралічным да нашае роднае справы і панясе „Саху“, гэту пакуль што малюсенькую часапіс ад вёскі да вёскі, ад гаспадара да гаспадара.



Рэдакцыя.

# Недахопы нашае вясковай гаспадаркі.

Па ўсей Беларусі дзесяткамі тысяч дзесяцін цягнуцца, як зьмерыць вокам, пяшчаныя абшары, з беднай расьліннасьцю і парэзаныя чысьленымі тарфянымі балотамі і сенажацямі. На гэтых не раджайных раўнінах раскіданы чысьленыя бедныя вёскі і засьценкі. Праяжджаючы праз нашу старонку, пабачыце вузкія шнурочкі сялянскіх зямель, засыпаныя каменямі і заросшыя ўбогай зеленьню, якую на першы пагляд нельга назваць якой-колечы збажынай. Ня маючы сельска-гаспадарчай навукі, наш селянін з году на год перабіваецца напаўгалодным жыцьцём. Пачарнеўшыя, уросшыя ў зямлю сялянскія будынкі і стады галоднай, недакормленай скаціны, падобнай хутчэй на абцягнутыя скурай шкілеты, дапаўняюць няпрыглядны абраз селянскага жыцьця ў Беларусі. Тымчасам, на падобных жа землях у суседняй Нямеччыне, мы бачым плаваючыя ў малаку і мёдзе фэрмы, багатыя ураджаі; там сеюць пшаніцу, а бульба падчас дае дзіўныя ўраджаі.

Кажучы аб палепшэных спосабах палявой гаспадаркі, нельга не ўспамявуць тых абмылак, якія ўсюды ляжаць у аснове нашага паляводзтва і бездаходнасьці нашых пяшчаных зямель. Наш селянін кіруецца палепшыць гэткія землі толькі пры помачы хлеўнага навозу; на гэта ён трымае, як можна больш, кароў.

На першым мейсцы ў нас стаіць мэта—дастаць ад скаціны гной; малако-ж і мяса адсоўваюцца на другі чарод. А дзеля гэтага галоўны даход, які мы павінны мець са скаціны (за малако, масла, мяса) мы ня маем. Знача, скаціна ў нас гэта толькі дарагая машына для вырабу гною.

Большая частка гаспадарак у нашай старонцы мае больш скаціны, чым можа пракарміць Вось дзеля гэтага ў нас вечны недахват пошыру і саўсім малы даход са скаціны. Увесь клопат нашага селяніна па часьці гадоўлі скаціны ў тым, што як-небудзь прадзяржаць да вясны скацінку, а там выпусьціць яе на свой промысел на пакрытае ня рэдка яшчэ сьнегам поле. Зімовыя галадоўкі чарадуюцца тут летнімі галадоўкамі для скаціны. На што-ж гэта безканечная галадоўка скаціны?

Толькі дзеля таго, каб дабыць ад скаціны патрэбны гной. Праўда, бяз гною абыйсціся нельга, але які-жа гной можа даць галодная скаціна?

Нават пры вялікім стадку ўсё-ж такі гною не хватае, а раскідаць гной гэткім тонкім слоем на такой зямлі, як наша, дзе гной трэба класьці тоўстым пластом, нічога не памагае.

На нашых лёгкіх пяшчаных землях, якія ня могуць затрымаць у сабе навозных солей — гной гэты, за колькі

тыдняў, пад уплывам паветра і вады, раскладаецца, частка выветрываецца, частка спаласківаецца даждж"м у глыб зямлі, так што ў ральлі астаецца дужа мала не разлажыўшыхся кусочкаў саломы. На „угноенай" гэткім парадкам зямлі наш селянін засявае сваё дабро. Спадзяючыся на ураджай ён дарма затрачвае ўвесь запас свайго корму, усе свае лішнія грашакі, усе свае сілы, каторыя бязсьледна прападаюць у ненасытным пяску.

Кажу ізноў: гной мае вялікае значэньне на полі і аплачваецца толькі тады, калі мы можам мець яго са сваей гаспадаркі дарма. А ў нас гной гэты каштуе і каштуе гэтак дорага, што растрачываць яго абы-як і стратна і грэшна. Гадоўля скаціны на нашых убогіх пяшчаных землях, як спосаб дабыць гной, адбірае дарма ў нас працу і грошы. Скаціна павінна нам даваць малако, масла, мяса, а гной павінен нам аставацца дарма, за салому і працу. Толькі тады, калі ў нас будзе досыць корму для скаціны, калі ня будзем жыць толькі неякімі надзеямі на вялікі запас гною, на вялікі ураджай,—мы выбьемся на больш простую дарогу, па каторай ужо сотня гадоў ідзе да багацьця і культуры суседняя нам Нямеччына.

Што ж магло-б папрaвіць пяшчаную зямлю і ў той самы час даць многа корму гаспадарцы. Навука і практыка кажа: гарошкавыя расьліны (лубін, сэрадэля, канюшына, віка і гарох-пялюшка). Гарошкавыя расьліны, як нам ужо вядома, збіраюць з паветра азот. Апрача азоту гарошкавыя расьліны сваімі доўгімі і крэпкімі каранямі глыбока пранікаюць у зямлю і зьвязываюць рыхлы пясок. Зьвязаная гэткім парадкам пяшчаная зямля ўжо затрымывае ваду, ня так крэпка награваецца летам і ня так прамерзае зімой.

Каб паказаць на сколькі больш карысцен зялёны навоз, чым гной з хлявоў, адзін нам вядомы практык гэтак вылічвае. Скажам, адна селянская карова, вагай 15 пудоў будзе стаяць ад 15 кастрычніка да 15 красавіка, гэта значыць 195 дней, у хлеве. Сярэдняя кармавая норма, залічаючы сюды падсцілку, у селянскай гаспадарцы будзе: сена 10 ф., ярай саломы 15 ф., аржаной саломы 10 ф. Праз 195 дней гэта будзе:

| | |
|---|---|
| сена 50 пуд. па 35 кап. . . . | 17 р. 50 к.*) |
| ярай саломы 75 п. па 20 к. . | 15 „ — „ |
| бульбы 25 пуд. . . . . . . . | 3 „ 95 „ |
| аржаной саломы 50 пуд. . . | 14 „ — „ |
| Усяго . . . . . . | 50 р. 45 к. |

Калі адлічыць ад гэтага вартасьць малака (50 пуд. па 50 кап. за пуд)—25 руб. і 3 руб. за цялёнка, то гной абходзіцца гаспадару 20—25 руб.

*) Цэны ўзяты даваеныя.

Вага гною ад аднэй каровы 300—320 пуд. Канечна патрэбныя 1000 пудоў гною на дзесяціну абходзіцца нашаму селяніну каля 70 рублёў.

Паглядзім цяпер, сколькі абойдзецца дзесяціна занятага пад лубін папару.

| | |
|---|---|
| Насеньне лубіну 15 п. па 75 к. . . . . | 10 р. 50 к. |
| Калійнай солі 30 % 2 мяшкі па 4 р. 35 к. | 8 р. 70 к. |
| Тамасшляку 16 % 4 мяшкі па 2 р. 40 к. . | 9 р. 60 к. |
| Усяго . . . . | 28 р. 80 к. |

Сярэдні ураджай лубіну дае каля 1.500 пудоў зялёнай массы (лічучы і карэньня) з дзесяціны. Мінэральных частак будзе тут шмат больш % чым ад звычайнага гною (меней-болей на 1 1/2 раза). Страта на гнаю ясная (70 руб. гной, а 28 р. 80 к. зялёны навоз).

З гарошкавых расьлін што з паветру збіраюць азот, першае мейсца займае лубін: сіні лубін, жоўты лубін, белы лубін. Для нашай беларускай старонкі найбольш падыходзіць сіні лубін. Гэты сіні лубін хаця дае менш зялёнай массы, чым жоўты, але затое дае больш азоту, мае больш развітыя карэньні і больш выносьлівы на благую зямлю і клімат. Апрача таго сіні лубін годзіцца з тым, калі ў зямлі бывае вапна, тады калі жоўты лубін ад вапны прападае. (Усё-ж такі радзім на саўсім пяшчаных землях побоч з сінім лубінам сеяць і жоўты, каб праверыць, каторый ляпей удасца).

Чароднай расьлінай пасьля лубіну, каторая мае вельмі важнае значэньне для гаспадаркі з пяшчанымі землямі, будзе сэрадэля. Апрача таго, што сэрадэля ўзбагачвае зямлю азотам, яна яшчэ дае найбольш з усіх пасеўных траў пажыўнага смачнага сена і багатага бялком зярна.

У канцы, як ужо было вышэй сказана, да лічбы азотазьбірацельных трэба прылічыць канюшыну, гарох-пялюшку, віку, боб і др. Увясьці гэтыя расьліны ў правільны пладазьмен і павінна быць галоўнай задачай гаспадара на пяшчаных землях. У нас на Беларусі гарошкавыя расьліны павінны высявацца: перш-на перш на папарным полі (лубін), пасьля разам з другімі расьлінамі (сэрадэля, канюшына).

Асновай пладазьмену на бедных пяшчаных землях павінна быць, засеяны лубінам папар. Поле пад пасеў лубіну мусіць быць выроблена акуратна, каб на ім ня было пырніку і зеліва. Толькі на добрай вырабленай і чыстай зямлі лубін забясьпечвае ураджай коласных расьлін. Штучныя гнаі пад лубін высяваюцца гэтак: 12 пуд. (2 мяшкі) 30 % калійнай солі і 24 пуды (4 мяшкі) тамасшляку на дзесяціну.

Тое, што цяпер у нас стаіць нізка сельская гаспадарка, не павінна пужаць нашых хлебаробаў. Развіцьце агранамічэскай навукі ідзе шпарка наперад; шмат чаго, што перш лічылася немажлівым, цяпер тое робіцца перад нашымі ва-

чамі; у нашы часы пяскі ўсё больш і больш перамяняюцца ў культурныя і ўраджайныя землі. У акружаючым нас паветры, дзякуючы навучным атрыцьцям і практыцы, мы знайшлі бяздонную крыніцу, найбольш цэннага гною—азоту.

З таго часу пяшчаныя землі пераходзяць у лічбу ўраджайных зямель.

Пры развіцьці сельска-гаспадарскай навукі і нашы беларускія пяшчаныя пустыні пакрыюцца буйнымі ўраджаямі і багатымі гаспадаркамі.

М. Б.

# Машыназацыя вясковае гаспадаркі.

Сьмешна і сорамна нам беларусам прызнацца, што мы сплётам розных гістарычных падзей засяляем цэнтр найкультурнейшай часткі зямной кулі—Эўропы, якую наш век пару, электрыцтва, радзіо і розных тэхнічных вынаходаў у сельскай гаспадарцы, удасканаляючы жыцьцё сельскага гаспадара, павышаючы прадукцыйнасьць варштату працы, а роўна і аблегчаючы апошнюю—жывём амаль што не закранутыя гэтым удасканаленьнем тэхнікі. Сьмешна сказаць, што ў той час, як іншыя народы наўкол нас канкуруюць паміж сабой ужываньнем тэхнічных паляпшэньняў у сельскай гаспадарцы для облягчэньня сабе працы, эканоміі часу, паляпшеньня вырабу зямлі і апрацоўкі прадуктаў сваей працы — мы шмат дзе яшчэ не разьвіталіся з музэйнымі прыладамі, як саха, драўляная барана і інш.

Чаму гэта? На гэта прыкрае пытаньне можна даць некалькі адказаў, якія адначасна будуць і слушнымі. Малазямельле, наша агульная агглочаннасьць, адсутнасьць шырокага крэдыту для вёскі, цемра, традыцыйнасць у гаспадарцы—усе гэта складае тыя перашкоды, якія тармозяць прагрэс нашае вёскі. Усе гэтыя прычыны лёгка можна было-б усунуць, каб не захапіла нас моцна одна хвароба—наша спэцыяльная беларуская няруxомась, што здаецца і зьяўляецца галоўнай прычынай нашай адсталасьці. Мы мала рунлівы, мала дбаем аб сваей гаспадарцы,—а ад гэтага ў нас трудна прышчэпліваецца новае, да чаго часамі мы адносімся нават варожжа.

Цяжкія гістарычныя часы перажыла і перажывае наша старонка. Шмат высілкаў яна патрэбуе ад нас, каб яе адрадзіць, каб наша гаспадарка ня гнала прэч ад сябе лепшых нашых братоў за акіяны, а вабіла да сябе. Гэтага можна дасягнуць тады, калі добра ўзгадуем думку сярод шырокае масы нашага сялянства, што падняць свой дабрабыт мы можам толькі на перабудове нашае сельскае гаспадаркі.

З чаго начынаць? Усе ў нас запушчана, усе галіны гаспадаркі не прытасаваны да вымаганьняў часу, усё мае недахопы.

Здаецца, што машыназацыю нашае вёскі ня трэба адкладаць на астатак, бо гэта мерапрыемства пацягне за сабой ужываньне і іншых палепшаных мэтадаў. Як гэта правясьці пры нашае беднаце? Ратункам тут мусіць быць каапэрацыйнае карыстаньне машынамі. Справа гэта ня новая, бо яшчэ за доўгі час да Вялікае Вайны ў Расеі, Прыбалтыцкіх краёх і на Паўночным Каўказе ня толькі заможныя гаспадары, але і малазямельныя сяляне куплялі машыны таварыствамі. Карыстаньне машынамі таварыствамі ў параўнані з карыстаньнем паасобнымі гаспадарамі больш сходнае. Калі дробнаму гаспадару якую-небудзь машыну аднаму набыць немагчыма, ды часта, дзякуючы таму, што машына ў яго гаспадарцы не акупіцца, няма сэнсу яе і купляць, дык таварыству гэта заўсёды бывае карыстна.



Рыс. 1. Машыназацыя сельскіх гаспадарак у Меншчыне.

Пры куплі таварыствам машын трэба ведаць, якія машыны у першую чаргу неабходна набываць. Гэтае пытаньне ў кожным выпадку разьвязываецца залежна ад мясцовых умоў, але можна скзаць, што ў першую чаргу набываюцца тыя машыны і прылады, якія маюць вельмі малы тэрмін ужываньня, або тыя машыны, праца на якіх ня мае характару пільнасьці.

Тут можа паўстаць пытаньне: ці арганізаваць дробнае т-ва (3—4 гаспадары) ці большае—для карыстаньня цэлым наборам машын і прылад. Думаецца, што на першы пачатак у нас лепшы пасьпех мелі-бы т-ва першага віду. Тут лепш згаварыцца, хутчэй можна арганізавацца, а потым—

тым гаспадарам, якія маюць ужо нацр. арфу, няма сэнсу уваходзіць у таварыства, дзе набываюць гэту машыну. Гэты-жа самы гаспадар з ахвотай запісаўся-бы у т-ва на куплі трэёра і іншых машын.

Пры вылічэньні колькасьці машын і прылад для т-ва, а роўна колькасьці гаспадароў на т-ва на набыцьцю машыны падаём для ведама гэту табліцу:

| Назва машыны і прылады | У адзін дзень зробіць | Лік рабочых дзён у гаду | Вытворчасць гадавая |
|---|---|---|---|
| Лугавы плуг . . . . | 1/2 дзес. | 20 | 10 дзесяцін |
| Культыватары і бароны . | 3 „ | 30 | 90 „ |
| Раскідны збож. сяўнік . | 8 „ | 20 | 160 „ |
| Радковы сяўнік (9-11 радкоў) . . . . . . | 4 „ | 12 | 48 „ |
| Касілка, жатка . . . | 3 „ | 20 | 60 „ |
| Малатарня 2-х кон. . . | 20 коп. | 70 | 1400 коп. |
| Малатарня 4-х кон. . . | 50 „ | 70 | 3500 „ |
| Арфа . . . . . . . | 300 пуд. | 150 | 45000 пуд |
| Сартоўка . . . . . . | 500 „ | 150 | 75000 „ |
| Трыёр . . . . . . . | 80 „ | 150 | 12000 „ |

Па гэтай табліцы можна лёгка арганізаваць т-ва, ведаючы плошчу зямлі кожнага сябры.

Пры аргазацыі таварыства, будзе яно дробнае ці бальшое, на першы пачатак трэба падбіраць людзей з грамадзкай сьвядомасьцей і не запляменным суменьнем. Тады гэта т-ва будзе моцнае і дасьць добры прыклад для цэлае ваколіцы.

У. П.

---

**Грамадзяне!** Чытайце і пашырайце сваю родную часапісь. Змагайцеся з цемрай—нашым галоўным ворагам.

# Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа.

Насеньне расьлін—гэта плады, якія вырастаюць пасьля зараджэньня, як і ўсё жывое. Робіцца гэта такім парадкам. Сьпелы пылок, які знаходзіцца ў жоўтых мяшочках, што вісяць на каласе ў час, красаваньня, напрыклад, жыта, (мужскі элемэнт) пападае на рыльца плодазавязі (жаночы элемэнт), якое знаходзіцца на тым-жа каласе жыта ў выглядзе чырвонаватых нітачак, праходзіць у глыбіню плодазавязі і злучаецца з так званай родавай клеткай. Пасьля гэтага пачынаецца рост зародка. Такое зараджэньне завецца апылкаваньнем.

Калі ў расьлін крыжавое апылкаваньне, ці іначай кажучы, на плодазавязь адной расьліны пападае пылок з другой, то патомства такіх расьлін можа ўнасьледаваць адзнакі як адной, так і другой расьліны. Пылок у гэтакіх выпадках пераносіцца ветрам, альбо з некаторых расьлін кузуркамі (пчолы, мухі, матылі і інш). Калі цэнны сорт збожжа сеяць побач з кепскім, то патомства першага будзе насьледаваць адзнакі горшага сорту і з цягам часу цэнны сорможа зьвясьціся. Жыта зьяўляецца тыповым прадстаўніком расьлін, у якіх бывае толькі крыжавое апылкаваньне.

У тых выпадках, калі расьліны апылкоўваюцца сваім уласным пылком (самаапылкаваньне), патомства ня траціць адзнак гэтае расьліны і гаспадару тады ня трэба баяцца, што сорт можа зьвясьціся ад апылкаваньня чужым пылком. Да збажжа, якое апылкоўваецца само, належаць ячмень, пшаніцца, авёс.

Але і тыя тыповыя расьліны, якія апылкоўваюцца сваім пылком, таксама часта трацяць сваю якасьць у сялянскіх гаспадарках і з цягам часу зусім зводзяцца.

У чым-жа тут справа?

А вось у чым. Па большай часьці нашы, не прашоўшыя адбор сарты, ужо самі па сабе ня чыстыя і зьяўляюцца па сутнасьці мешанінаю розных сартоў. Калі збожжа стаіць на полі, то ў той час вельмі лёгка заўважыць рознастайнасьць такога сорту, бо асобныя расьліны адрозьніваюцца адна ад другой. Тут поруч з цэннымі расьлінамі сустракаюцца расьліны нежаданных сартоў. Гэтыя-ж малацэнныя расьліны заўсёды бываюць больш трывалымі; чым горшыя культурныя ўмовы гаспадаркі, тым болей яны ўмацоўваюцца і тым хутчэй зьністашаюць цэнныя сарты.

Сартаваньне насеньня ў гэтакіх выпадках затрымоўвае хуткае зьністажэньне цэнных расьлін малацэннымі, бо пры сартаваньні з насеньня абіваюцца дробныя і лёгкія зярняты, якія па большай часьці належаць да малацэнных расьлін.

Гаспадаром-жа трэба вельмі ўважліва сачыць за тым, каб да збожжа цэннага сорту не папала збожжа іншых сартоў, напр., мясцовых сялянскіх, якія па большай часьці зьяўляюцца малацэннымі, хаця і бываюць больш трывалымі, бо ад гэткага падмешваньня цэнны сорт толькі хутчэй зьвядзецца.

Сеючы-ж адборным насеньнем можна не баяцца, што узросшы, горшыя расьліны павыпіхваюць цэнныя, бо ад борныя сарты заўсёды вылучаюцца з якога-небудзь аднаго сорту. Расьліны-ж слабейшыя, якія часам сустракаюцца ў адборным сорце, заўсёды бываюць таго-ж самаго племя, якога і іншыя расьліны, але не разьвіваюцца так, як іншыя дзеля якіх небудзь дрэнных умоў. Калі засеяць нясеньнем з якіх расьлін, то патомства вырасьце па сваім адзнакам гэтакае-ж, як і ад расьлін здаровых.

За расьлінамі, у якіх бывае толькі крыжавое апылкаваньне, трэба ўважліва наглядаць, каб яны не апылкоўвалісь пылком расьлін іншых сартоў, што можа лёгка здарыцца, калі тое-ж самае збожжа, але толькі іншых сартоў, будзе расьці недалёка.

Не зрабіўшы ніякай прадасьцярогі ад гэтага, можна чакаць, што неўзабаве самы найцэнны сорт выродзіцца ў звычайны мясцовы.

1) не дапушчаць засьмечваньня яго мясцовым збожжам;

2) сартаваць насеньне, адкідаваючы гэтым самым дробныя зярняты, якія належаць да расьлін нежаданых і малацэнных;

4) выбіраць заўсёды адборныя сарты, якія апрабаваны на с-г. дасьледчых станцыях і

5) ня сеяць блізка сарты з крыжавым апылкаваньнем каля мясцовых сартоў такога самага віду.

**Г. Рэго.**

---

# Што можа нам даць сэлекцыя расьлін.

Пішучы гэтыя радкі, маю на ўвазе тых нашых паважаных чытачоў-землияробаў, якія ўжо вызваліліся ад старажытных звычаяў і парадкаў у гаспадарцы, што так доўга панавалі і яшчэ пануюць ў нашае старонцы. Гэты артыкул пасьвячаю тым аматарам-гаспадарам, якія маюць заміласаваньне да свайго варштату працы-ральлі і жадаюць як найхутчэй падняць сваю гаспадарку да найвышэйшай ступені інтэнсыўнасьці.

Сельская гаспадарка—гэта складная машына, якая працуе прадукцыйна толькі дады, калі ўсе яе шрубы іспраў-

ны. Досыць аднаму, нават маленькаму шрубіку папсавацца, як гэта выклікае затрыманьне працы ўсей машыны.

Калі сягоньня праца на ральлі ў нас для шмат каго зьяўляецца праклёнам, калі гаспадарка шмат каго гоніць ад сябе за акіяны шукаца лепшае долі, дык вінавата тут ня сама няўдзячная гаспадарка, а мы самі, бо ня ўмеем належна кіраваць гаспадаркай пры новых палітычных і эканамічных абставінах. Зразумець гэтыя абставіны—гэта ўжо ёсьць першы шаг над перамогай іх. А перамагчы іх мы мусім, хаця-бы для таго, што нам трэба жыць і мы мусім жыць.

Паглядзіце на любую сялянскую ніўку, дзе расьце сялянскае збожжа.

Чаго толькі там можна ня ўбачыць?—Свірэпка, васількі і іншыя сарнякі заглушваюць культурную расьлінку. А апошняя?—Кволая, дробная кідаецца яна воку сваім мізэрным відам і наводзіць на нудныя думкі. А між тым збожжа ў нас зьяўляецца пакуль-што галоўным прадуктам гаспадаркі, чым гаспадар мусіць задавольніць усе свае патрэбы і аплаціць падаткі.

Вось дзеля чаго ў першую чаргу мы мусім зьвярнуць увагу на паляпшэньне нашага збожжа і кожны раз помніць нашу прымаўку: **„Што пасееш тое і пажнеш“**.

Гэту добрую прымаўку нашы земляробы добра ведаюць, але ў часе сяўбы заўсёды запамінаюць пра яе і апраўдываюцца тут адсутнасьцю часу. Думаецца, што тут ня такую ролю адыгравае брак часу, як укаранiўшаяся ў нашу натуру наша спэцыяльная беларуская нядбаласьць, праз якую што год мы не атрымліваем поўных ураджаяў з нашае нівы і гэтым амаль што сьвядома паглыбляем нашу нэндзу.

На старонках „Сахі“ мы асьцярагалі сваіх чытачоў ад рызыкі набываць моднае, высокарасовае насеньне з боку, якое можа быць адпаведным, але толькі на сваей бацькаўшчыне. Пры нашых кліматычных і глебавых умовах гэты гатунак можа для нас ня падыйсьці, хутка вырадзіцца і гэтым наразіць нас толькі на страту.

Тут будзе гутарка аб тым, як палепшыць гатунак збожжа бяз рызыкі наразіць сябе на страту. Спосабам гэтым будзе **Сэлекцыя**, ці падбор у працягу некалькі гадоў найлепшага гатунку збожжа. Праца марудная, клапатлівая, вымагае навыку, а галоўным чынам цьвердасьці і упорчывасьці ў змаганьні з усімі прыкрасьцямі, магучымі тут паўстаць.

Сэлекцыя ці падбор адбываецца ў прыродзе з даўных часоў бяз дапамогі чалавека. Усе тыя расьліны, над якімі працуе земляроб не паўсталі адразу ў той форме, якую мы цяпер бачым. Адбылося шмат зьмен расьлінкі у натураль-

ным відзе, пакуль чалавек не задумаў заняцца іх культурай. Рука людзкая пакіравала зьменнасьць формы расьлінкі ў пажаданым сабе напрамку і, дзякуючы гэтай здольнасьці ўсяго жывога да зьменнасьці сваіх форм і перадачы іх у спадчыну патомству, стварылася шмат гатункаў збожжа.

Гэтымі двума біолёгічнымі законамі: зьменнасьцю форм расьлінкі і перадачаю зьмененых форм у спадчыну патомству і тлумачыцца сэлекцыя.

Чалавек заўсёгды выбіраў для свайго поля больш карысныя яму расьліны і адкідваў непажаданыя. З поступам земляробства сэлекцыя ўдасканалелася, гаспадар ужо наперад акрэсьляў сабе мэту, да якой ён у падборы імкнуўся. Зьяўляліся новыя гатункі збожжа, бульбы, культурных траў, якія заўсёгды на першы час цаніліся высока. Бульба „Кароль раньніх сартоў" некалькі гадоў назад цанілася у Амэрыцы па 50 даляроў за штуку.

І ў нас сяляне праводзяць сэлекцыю, заўсёгды пакідаючы на насеньне збожжа з лепшае нівы. Знаходзяцца з гаспадароў аматары, якія збіраюць па аднаму каласку найлепшага жыта, з якога разводзяць насённы матэрыял, але праца гэта ня мае пад сабою навуковых падстаў, праводзіцца бяз усялякага пляну, а дзеля таго не апраўдваецца пажаданымі скуткамі.

Выбіраючы матэрыял для сэлекцыі, трэба ў нашых кліматычных умовах асьцерагацца збіраць каласы дужа даўгія, растучыя на берагу поля, калі яны заўсёгды ствараюць гатунак збожжа познасьпелы

Выбор добрых, цяжкіх, тыповых каласоў ёсьць першым шагам паляпшэньня гатунку збожжа. Зярнё ачышчанае і адсартаванае сеюць у асобай школцы. У наступны год адбіраюцца ізноў найлепшыя каласы і сеюцца таксама ў школцы.

Вышэйшай ступеняй паляпшэньня гатунку збожжа ёсьць ня толькі выбор лепшых каласоў, ці струкоў, але і самае расьлінкі. Расьлінкі, маючы на сябе мала струкоў, даюць такое самае і патомства.

Выбіраючы лепшыя адзінкі расьлінак на размножаньне і гадуючы іх у асобай школцы, можна вывесьці гатунак збожжа, напрыклад, мала падатлівы да якой-небудзь хваробы, ці вымаканьня, вымярзаньня, палеганьня і г. д. На ніве, якая пацярпела ад вышэй успоўненых хвароб, выбіраюцца расьлінкі, што не пацярпелі ад хваробы і іх гадуюць у школцы.

Школку трэба закладаць на грунце добра угноеным і добра выробленым. Месца пад школу мусіць быць адкрытым для сьвету і роўным. Культура расьлінкі павінна быць аднолькавай з палявой культурай. Калі будзе заложана школка на адным месцы, трэба вызначыць пладазьмен,

напр. 4-х полёвы: 1) корне-клубнеплоды па гнаю, 2) ярына, 3) матыльковыя і 4) азіміна.

Трэба думаць, што адна сэлекцыя, без паляпшэньня апрацоўкі ральлі, пажаданных скуткаў ня дасьць. Толькі з агульным поступам сельскае гаспадаркі сэлекцыя можа паднясьць прадукцыйнасьць працы земляроба і заваяваць сабе пачэснае месца ў адраджэньні земляробства на Беларусі, на што мы мусім зьвярнуць усю сваю увагу. Гэта вымагае час, палітычныя і эканамічныя абставіны нашага краю.

**Тутэйшы Аграном.**

# Выраб поля перад севам жыта.

Вельмі каштоўна своечасова ўзьмяшаць папар пасьля заворваньня гною. Мяшаць ці дваіць трэба якраз тады, калі гной так перапрэе, што салома будзе лёгка рвацца, а кавалачкі гною будуць добра разьдзірацца. Каб гэты момант не прапусьціць, дык трэба кожны дзень хадзіць на поле, даставаць гной і прабаваць, як лёгка рвецца яго салома. Толькі пры мешані ў гэты час гной добра дапамагае вырабу поля: ён робіць зямлю дробна-глыбкаватай, а самыя глыбкі моцнымі. Ляпей узьмяшаць папар на дзень раней, чым прапусьціць гэту пару. Узьмяшаўшы папар хаця-бы на адзін дзень пазьней, ураджай значна зьменшаецца. Бываюць выпадкі, калі ад гэтага гаспадар не дабірае ўраджаю на 20—25 проц. Рухавы гаспадар напэўна будзе сачыць за перапраўленьнем гною і папар узьмяшае ў час.

Наогул-жа, апошнюю ворку папару трэба рабіць за 2-3 тыдні да севу азіміны, ня гледзячы, які выраб папару быў да гэтаго часу.

Калі азіміна будзе пасеяна ў сьвежую ральлю кепска вырабленнага поля, дык увосень пасьля зьяўленьня ў жыта вузла кушчэньня зямля пачынае асядаць, вузёл кушчэньня[1]) агаляецца і куст азіміны стаіць быццым на падпорках (на сваіх карэньнях). З падыходам зімы, калі такой азіміны ня прыкрые хутка сьнег, большая частка яе вымерзьне, бо ў вузлох кушчэньня знаходзяцца вельмі кволыя часткі расьліны. Звычайна яны не павінны агаляцца і паказвацца з зямлі.

Калі пасьля зімы што-небудзь і ўцалее, дык ад першага добрага дажджу ці ветру жыта будзе падаць і ураджай будзе зьніжаны.

*) Вузёл кушчэньня—частка караня, адкуль выходзяць сьцяблінка, азіміны.

Папар заняты (віка з аўсом ці іншыя расьліны) выробляецца крыху інакш. Там за лета вельмі шмат патраціласяполем вільгаці пасьля скосу мешанкі, калі апазніцца з воркаю. Каб гэтага ня было, патрэбна пасьля скосу мешанкі ці другой расьліны дзеля сушкі іх зьвезьці з папару на другое месца, а папар у той-жа дзень мелка ўзараць (на пеле „надзець кажух"), каб затрымаць вільгаць.

Як толькі цераз 1-2 тыдні папар зазелянее ад сорных траў, трэба яго пацягнуць пружыноўкай. Далей, за тыдні 2-3 да сева азіміны ўзараць на поўную глыбіню.

Апроч таго, трэба сачыць, каб усялякі папар не заставаўся доўгі час прыплесканым дажджом, бо гэта вельмі стратна дзеля вільгаці.

Ад апошняй воркі да севу жыта часта даводзіцца адзін, а то й два разы пускаць па полю пружыноўку, каб зьністожыць шкодныя расьліны і ўспульхніць прыплесканую глебу.

Барана пасьля мешані і да пасеву жыта ні ў якім разе ня ўжываецца. Ураджай жыта па лубіну ў значнай меры залежыць ад вільгаці поля на працягу ўсяе восені, бо яна патрэбна, каб лубін добра пераправаў пасьля заворкі. З заворкаю яго ня трэба пазьніцца. Пасеў азіміны можна рабіць толькі тады, калі зямля добра асела.

Пасеў азіміны пасьля бульбы асаблівага вырабу поля не патрабуе. Трэба толькі ў папары сеяць раньнія сарты бульбы і выкапваць іх загадзя. Інакш на бульбянішчы азіміны лепей ня сеяць.

**Сьц. Туркін.**

# Гадоўля насеньня лугавых траў.

На старонках нашае часапісі (глядзі кніжку 4—5 за 1927 г.) мы закранулі балючае пытаньне нашае вёскі „Як палепшыць сенажаці" і далі цэлы чарод практычных парадаў па гэтаму пытаньню. Паляпшэньне нашых сенажацяў—гэтае дойнае каровы гаспадаркі вымагае той гаспадарчы крызіс, у які сягоньня пастаўлена наша вёска. Адчуваецца патрэба як найхутчэй пакінуць дзядоўскія спосабы вядзеньня гаспадаркі, што вачавідна вядзе да сялянскае нэндзы, адчуваецца патрэба знайсьці новы напрамак у гаспадарцы да паляпшэньня свайго быту. І гэтым напрамком будзе жывёлагадоўля, якая прымусіць гаспадара пашукаць новых і лепшых кармоў, каб задавольніць патрэбы больш рацыянальнага вядзеньня гэтае найдаходнейшай галіны гаспадаркі.

Натуральна, што мы мусім зьвярнуць увагу ў першую чаргу на нашы сенажаці, якія сягоньня знаходзяцца ў дзікім стане, даюць марныя ўраджаі сена, якасьць якой часамі бывае ніжэй крытыкі.

Але пры паляпшэньні сенажацяў наш земляроб натыкаецца на шмат перашкод, як прыклад—дарагоўля насеньня лугавых траў. Каб залажыць штучны луг, яго трэба засеяць насеньнем траў, што на рынку каштуе да 150 зл. на дзесяціну, ды і якасьць іх няпэўная. Вось дзеля чаго часта нашы перадавыя гаспадары або зусім адганяюць ад сябе думку аб паляпшэньні свайго лугу, або купляюць насеньне і засяваюць ім у незадавольняючай колькасьці, чым наражаюць луг на рэдкі травастой і на малы ўраджай.

Было-б зусім інакш, каб нашы земляробы заахвоціліся самі гадаваць насеньне ў сваей гаспадарцы, спачатку хацябы для сваей патрэбы, а потым і для збыту. Цана на насеньне ў нас стаіць і, трэба спадзявацца, будзе стаяць высокая, а потым, пры прагрэсу ў сельскае гаспадарцы, заўсёгды збыт будзе забязьпечаны.

Праўда, ня ўсюды мясцовыя акалічнасьці дазваляюць гадаваць насеньне, але і мыльная думка, што ў нас добраякастнага насеньня выгадаваць нельга. Гадоўля не вымагае задужа вялікіх труднасьцяў, а калі ў гаспадара будзе маленькая практыка і сьвядомасьць сваей працы, ён хутка пяройдзе на гадоўлю насеньня лугавых траў і для рынку.

У гэтым нарысе я маю на ўвазе гадоўлю насеньня для сваей патрэбы, да чаго і буду прытасоўваць свае рады.

Арганізуючы так званую „школку насеньня“ раю на першы пачатак абмяжавацца гадоўлей гатункаў траў толькі галоўнейшых і адпаведных нашым кліматычным і глебавым умовам. Да гэтакіх трэба залічыць 1) **Мурог,** па лацінску Festuca pratensis, па расейску—овсяніца луговая, 2) **Псіўмой,** па лац. Dakctylis glomerata, па расейску — Ежа зборная (купкоўка), 3) **Цімафейка** і 4) **Райграсы**.

Месца для школкі з травамі трэба выбіраць не занадта сухое, як роўна не падыходзіць і балота. Пажадана каб мясцовасьць была адкрыта на поўдзень. Лепш усяго травы удаюцца пасьля корань—клубняплодаў, калі зямля выходзе ад папярэдніх частых даглядаў за культурамі чыстай ад сарнякоў. На зусім чыстай і добра прыгатаванай зямлі травы можна сеяць адны, але робіцца часьцей як падсеў пад ярыну—авес і віка-аўсяную сумязь. Па пасеву яравога сеецца травы радкамі, радок ад радка 6—10 цаляў, Адлегласьць тут залежыць ад гатунку травы і якасьці глебы.

Кожны гатунак траў трэба сеяць асобна, пакідаючы паміж імі мяжу, якую можна засадзіць корань-клубняплодамі. Трэба мець на ўвазе, каб травы, належачыя да аднаго віду ня былі пасеяны побач сябе. Напрык. райграс англій-

скі ня трэба сеяць побач з райграсам французкім, за то можна сеяць яго з цімафейкай ці купкоўкай.

Некаторыя практыкі раюць сеяць не асобна травы, а ў сумязі.

Па здыйму пакроўнае расьліны, якая звычайна здыймаецца тут рана на зялёны корм, зямля ў школцы ўспульхняецца і нішчацца сарнякі, што робіцца і ў далейшым працягу культуры траў на насеньне. Калі ў першы год трава буйна разрасьцецца, дык для забясьпячэньня вырываньня пад сьнегам яе трэба ў канцы верасеньня скасіць, або асьцярожна скарміць жывёлай. У часе росту траў іх трэба угнаіваць кампостам, жыжай гнаёвай, попелам. Па 4—5 гадох культуры траў іх трымаць пад школкай ня акупаецца і лепш месца заараць і пасеяць акаповыя расьліны (буракі, бульба і інш.).

Здыйм траў на насеньне звычайна адбываецца на другі год па высеву іх, толькі райграс італьянскі часта дае насеньне у першы год. Насеньне траў дасьпявае не адначасна і няроўна. Здыйм іх вымагае ад гаспадара навыку і веды, што набываецца толькі шмат гадовай практыкай. Тут трэба зьвярнуць асаблівую увагу на асьцярожнае варушаньне снапкоў траў, каб не наражаць сябе на страту ад абсыпаньня насеньня. Апошняе павіна перахоўвывацца сухім і ў сухім месцы, бо ў праціўным выпадку насеньне траціць здольнасьць прарастаць.

**Лугавод.**

---

# На што трэба зьвярнуць увагу пры жывёлагадоўлі.

Кожны хацеў бы мець ад жывёлы як найбольшую карысць, бо галоўнаю мэтаю кожнага гаспадара ёсць атрыманьне як найбольшага даходу. Мы бачымо, што калі якая небудзь галіна гаспадкркі перастае аплачвацца, ці не дае даходу, то яна хутка замірае, і наадварот—разрастаецца тая галіна гаспадаркі, што дае даход найбольшы. Паглязімо як-жа выглядае у нас справа з гадоўляю жывёлы. Вось-жа у параўнаньню цэн за апошнія гады бачымо, што масла у Польшчы было даражэйшае амаль што як на усім сьвеце, значыць гадоўля жывёлы ёсьць у нас рэч вельмі карыстная, але толькі тагды, калі мы будземо мець добрых кароў, якія добра аплачывалі-б пашу, а для гэтага патрэбна яшчэ шмат мазольнае працы.

Ведама кожнаму, што толькі добрая жывёла прыносіць карысьць. У нас добрую карову найчасьцей можна ўбачыць толькі ў большых фальварках, у дробных - жа гаспадароў

у нас жывёла значна горшая. За граніцаю напрыклад у Даніі альбо Галяндыі бачым зусім іншае, там найлепшую жывёлу мацюь дробныя гаспадары. Там дробны гаспадар мае прыгожую больш расовую жывёлу, як абшарнік. На Заходзе дробны гаспадар ужо даўно пераканаўся, што толькі народная, рослая, прыгожая карова з добрым вымeнем і г. д. прыносіць карысьць Лепш мець адну добрую карову, чым 3—4 малых замораных, ад якіх апрача гною і каплі малака няма ніякае карысьці, а зьядае яна корму амаль што столькі, як і добрая карова. У нас звычайная селянская карова дае прыблізна ў год каля 1000 літраў малака, у той час як добрая расавая карова можа даць 4000—5000 літраў малака у год, а то і больш Разумны асьвечаны гаспадар нешкадуе працы на дагляд над жывёлаю, і аддае апошнія на яе грошы, бо сам пераканаўся, што дае яна вялікі даход у гаспадарцы. Якасьць жывёлы ў малых гаспадарках мае вялікае значэньне і з тае прычыны, што дробны гаспадар трымае жывёлы адносна-больш, (у параўнаньню на гэктар зямлі) як уласнік якога-небудзь вялікага двара. Трэба зазначыць, што на фальварках гадоўля жывёлы мае меньшае значэньне, як у дробнай гаспадарцы, дзе гной з-пад жывёлы ёсьць угнаеньнем галоўным, бо наш гаспадар яшчэ ня ужывае штучных парашкоў і рэдка які сялянін у нас патрапіць гэтыя парашкі добра застасоваць. Сялянін зьяўляецца найлепшым гадаўцом жывёлы, бо мае магчымасьць кожную штуку пазнаць дакладна, ведае яе патрэбы і недахопы, і адпаведна да гэтага можа застасавацца. Апрача таго, ходзячы каля ўласнае жывёлы, лепш апякуецца ёю, як наёмны працоўнік у дварэ, ад якога гэтага спадзявацца ня можна.

Каб лячыць хворага, дохтар мусіць пазнаць сутнасьць хваробы, так сама гутарачы аб направе гадоўлі, трэба перадусім застанавіцца над галоўнымі прычынамі, перашкаджаючымі у нас развіцьцю жывёлаводства. Ня будзем тут гаварыць аб цяжкім і не нармальным гаспадарчым становішчы нашага краю, а зьвярнём увагу сёньня на тыя прычыны, што залежаць, галоўным чынам, ад самага сялянства, і якія ён мусіць направіць у першую чаргу. Ня гледзячы на высокія цэны на прадукты жывёлаводства (масло, малако, сыры, мяса) сярод нашага сялянства вялікай зацікаўленасьці жывёлаводствам няма. Праўда, некаторыя гаспадары маюць шмат жывёлы, але звычайна выглядае яна заўсёды мізэрна. Ня можна сказаць, каб умовы кліматычныя ня спрыялі ў нас разьвіцьцю жывёлаводства, так сама ня можна пажаліцца і на якасьць глебы, бо амаль што ня ў усіх ваколіцах нашага краю пашныя расьліны даюць ураджаі задавальняючыя, а у некаторых мейсцовасьцях нават і вельмі добрыя. Значыць, галоўныя прычыны гэтае хваробы мусімо шукаць

ня дэсьці на боку, але перадусім у нас саміх. Гадоўля вымагае працы пастаяннае, сыстэматычнае, бо калі мы занядбаем жывёлу хаця-ж бы і на кароткі час, то можам змарнаваць і тыя добрыя асаблівасьці, якія жывёла мела да гэтага часу.

Даглядае жывёлу у нас, галоўным чынам гаспадыня, якая патрапіць можа і лепш як гаспадар паклапаціцца аб тым, каб паша была дадзена ў час, каб у час жывёла была напоена і г. д., але гаспадыня ня мае магчымасьці звычайна дапільнаваць добра скаціну, бо перашкаджаюць ёй у гэтым праца ў хаце, дагляд за дзяцьмі і г. д. І ні праца гаспадыні паклапаціцца аб тым, каб пладазьмен быў ураджаны адпаведна да напрамку гадоўлі—гэта ўжо праца толькі гаспадара. Мыліцца той, хто думае, што дагляд жывёлы гэта праца жаночая. У тых дзяржавах, дзе гадоўля стаіць вельмі высока, як напрыклад у Даніі Голяндыі, або Чэхіі, там ня толькі напрамак гадоўлі залежыць ад гаспадара, але там ён выконвае ужо галоўныя працы, не выключаючы нават і даеньня, бо там селянін даўна зразумеў, што добра пастаўленая гадоўля ёсьць галоўнаю падставаю яго дабрабыту. Добры гаспадар мусіць заахвоціцца да гэтае працы, кахаць жывёлу, укладаць да гадоўлі увесь свой розум. Калі наша жывёла выглядае так мізэрна, то перадусім дзеля таго, што нямаемо да яе сэрдца. Гэтак у нас можна убачыць карову брудную, стаіць яна не падасланая, пакалені ў гнаі, шчыліны ў хляве бываюць такія, што проста страх, страха працякае, зімою жывёла мёрзне і такім чынам шмат пашы траціць на тое, каб сагрэцца, замест таго, каб перарабіць корм у прадукты карысныя (мясо, малако).

Падставаю добрае гаспадаркі ёсьць заўсёды гармонія, ці згода паасобных галін яе, калі-ж няма гэтае гармоніі, калі нявыпрацованы напрамак, калі няма кіраўнічае думкі, то гаспадарку такую можна параўняць з возам без аглабель ці дышла, які абавязкова мусіць выйсьці з калеі. У нашых дробных гаспадарках няма правідловага напрамку, часта трымаецца жывога інвэнтара больш і зусім ня зварочваецца увага на задавальняючае забязпячэньне гэтага інвэнтара пашаю. Тут трэба зьвярнуць увагу на неабходнасьць пашырэньня засеву пашных расьлін. У нас звычайна каля 75% усёй плашчыны засеваецца збожжам, і толькі невялікая частка поля знаходзіцца пад карэньплодамі (бульба, буракі), а рэшта гуляе пад папарам. Гэта зусім ніправідлова, трэба пашыраць пасеў добрых мяшанак пашных расьлін, як напрыклад вікі, пялюшкі і аўса, павялічваючы адначасна плашчыню засеваў бульбы і буракоў. Тагды і збожжа будзе больш, бо дае яно ураджаі па такіх пашных расьлінах, куды лепшыя, а жывёла будзе мець даволі пашы ў летку з мяшанкі, а на зіму застанецца канюшына, сэрадзэля, сена, буракі і бульба.

Паміж іншым, навуковыя досьледы ў апошнія часы паказалі, што папар не дае ні якае карысьці, а хутчэй шкодзіць; бо хоць трохі ён і палепшвае стан глебы, але затое за адсутнасьці на полі расьлін, шмат пажыўных складнікоў з вадою ўходзіць у глыбейшыя слаі, і такім чынам прападае дарэмна. Просты розум кажа, што выгадней замест 3-х кароў, што даюць па 1000 літраў малака ў год, трымаць адну ці дзьве каровы, што даюць па 3000—4000 літраў малака. Утрыманьне 3 х кароў, дрэнна дагледжаных, абойдзецца ў гэтым выпадку куды даражэй.

Прыступаючы такім чынам да направы памылак, трэба зачынаць ад выбару лепшае жывёлы, найлепш сваёй гадоўлі, і выпрадажы штук горшых, мала карысных, адначасна зьмяньшаючы засеў збажыны і павялічваючы пасеў расьлін пашных, так каб жывёла ніколі не галадала, ня ляскала зубамі, а заўсёды была добра дагледжана, гэта значыць, аднолькова як зімою так і ўлетку. Зімою трэба абдумваць чым карміць жывёлу ўлетку, а ўлетку трэба прыгатаваць патрэбны лік пашы на зіму. Добры гаспадар ніколі недапусьціць да таго, каб жывёла мела з пачатку пашы больш, як патрабуе, а пасьля, у канцы зімы, палажыла, як кажуць, зубы на паліцу. Бо калі карову мы будземо карміць нераўнамерна, то яна ніколі нам шмат малака даваць нябудзе, шмат пашы змарнуецца, бо зхудзець жывёла можа вельмі хутка, а каб паправіцца ёй, то трэба шмат часу і пашы. Каб чытаць трэба знаць перадусім літары, так сама і каб мець з жывёлы карысьць трэба добра ведаць і памятаваць, што карміць яе трэба раўнамерна, правідлова, каб ніколі не спадала на целе. Добрым гадоўцом ня ёсьць той, хто трымае шмат жывёлы, але той, хто стараецца крок за крокам палепшыць якасьць і павялічыць даход ад гадоўлі.

С.

# Як ратаваць уздутую карову.

Няма вёскі, дзе-бы цераз год-два ня згінула карова ад уздуцьця. Няшчасьце гэтае найчасьцей здараецца ўлетку, калі жывёла наесца сакавітага мокрага корму, ды яшчэ галоднай. Больш усяго шкодзіць жывёле маладая атава канюшыны. Можа пашкодзіць карове пасьля сытага сухога корму хуткае паеньне і зімой. Калі белы мароз ляжыць на пашы—гэта ўжо можа пашкодзіць карове, асабліва цельнай, бо яны тады скідаюць. Каб усьцерагчыся гэтага, лепш пачакаць з выганяньнем жывёлы на пашу, пакуль белы мароз не прападзе, а тым часам на галодны жывот даць у

хляве карове хоць постнай саломы. Шкодзіць жывёле ўсялякі сытны корм, калі скаціна дападзе да яго галодная і аб'есцца.

Уздуцьце бывае ад таго, што ад лішняга нездаровага корму ў жываце зьбіраюцца газы-ветры і яны расьпіраюць кішкі і трыбух. Прыкметы ад уздуцьця вядомы кожнаму гаспадару. Карова робіцца неспакойнай, вочы набягаюць крывёй; спачатку яна сапе часта, а потым усё вальней і вальней і ўканцы зусім перастае сапець і дыхаць — наступае сьмерць. Кроў набегаець да галавы, або лопае трыбух. У гэты час трэба пасьпяшыць з помачай, бо запазд;ць некалькі мінут—гэта можа пацягнуць за сабой страту жывёлы. Характэрнай вонкавай адзнакай гэтае хваробы бывае павялічэньне левай пахвіны, якая ад ветраў робіцца роўнай з клубамі, або і вышэй іх.

Ад уздуцьця ўжываюць розныя лекі, як такія, што зьвязваюць у жываце газы, так і тыя, што выклікаюць адрыжку і гоняць ветры праз горла вон. Да першых можа далічыць паленую вапну, мыльную ваду, а найлепш нашатырны сьпірт. Ужываць гэтыя лякарствы трэба хутка.

Лякарствы, што гоняць ветры праз горла: тэрпэнтына, кмін, укроп, румянкі і іншыя.

Нашатыру браць лыжку на кварту вады і асьцярожна ўліваць у горла хворай скаціне. Кмін, укроп, румянку трэба спарыць з вадой, перацэдзіць і тады можна ўліць ад двух да чатырох бутэлек. Вапну трэба распусьціць у вадзе і таксама ўліваць па трохі ў горла. Іншых лякарстваў, апроч раінных вэтэрынарным доктарам, лепш ня ўжываць, бо няўмелае іх ужываньне можа толькі хваробе пашкодзіць.

Ня гледзячы на дачу ўнутраных лякарстваў, заўсёды карысна ўздутай жывёле залажыць у горла вуздзілы з тоўстага перавясла саломы, абмазаныя бярозавым дзёгцем, хрыбеціну абліваць халоднай вадой і цёрці яе і бакі каровы пучком саломы, паціскаць левую пахвіну, пацягваць асьцярожна скаціну за язык. Гэта ўсё памагае адрыганьню газу.

Але бывае часта, што ўсе лякарствы, што мы тут раім не памагаюць. Тады трэба ужываць прабіваньне трыбуха **троакарам** (трыкацінкам). Гэта невялікі круглы цьвек, уложаны ў тоненькую медную трубку. Гэтакі троакар так карысны і танна каштуе, што аж дзіва, чаму гэта па вёсках гаспадары так рэдка маюць яго. 3—5 гаспадаром купіць гэту прыладу, дык ім абышлося-бы па якому-нобудзь злотаму на кожнага, а ён часта мог-бы адратаваць хворую жывёлу ад сьмерці. Гэту прыладу можа зрабіць спрытны сьлёсар у вёсцы сам. Пільнуйце тут, каб трубка была добра выгладжана і каб шчыльна прыставала да вострага канца швайкі.

Каб прыбіць гэтай прыладай трыбух скаціны, швайку ўганяюць у левы бок так, каб яна быццам мелася выйсьці з правага боку за пярэдней лападкай (глядзі рыс. 2).



Рыс. 2. Месца, дзе трэба прабіваць скуру і трыбух.

Калі троакар загнаны, трубку прытрымліваюць аднэй рукой, а другой выцягваюць швайку. Трубка значыць астаецца ў баку хворай жывёлы і цераз яе праходзіць газ. Яе трэба часта чысьціць дубчыкам, каб не загразла ад корму.

Ня маючы троакара, можна ўжываць шылаваты нож, які ўганяецца на 3 цалі. Ножык у дзюрцы пакручваецца, каб лягчэй мог праходзіць дух, але вынімаць ня трэба. Замест ножыка, можна ўставіць якую-небудзь дудачку ў зробленную нажом дзюрку.

Троакар і ножык мусяць быць чыстыя. Перад ужываньнем іх трэба вымыць вадой з мылам ці з содай, спаласкаць гатаванай вадой і абмыць карболавай вадой. Толькі тады інструмант не заразіць раны.

Ня трэба палохацца раны, бо яна хутка загоіцца без усялякіх лекаў. Добра потым дзюрку заклеіць смалой або воскам і даваць жывёле праз некалькі дзён такую пашу ад якой скаціну ня ўздувае.

**Зоотэхнік П.**

# Дамавая аптэчка земляроба.

Хто жыве ў вёсцы, той добра ведае бязраднасьць нашага земляроба пры хваробах яго хатніх жывёлаў. Да вэтэрынарнага пункту далёка, да аптэкі—таксама ня блізка, так, што і таму гаспадару, хто сачыць за поступам земляробскае навукі і ўмее карыстацца дамавым лячэбнікам ці іншымі.

лякарскімі парадамі—нічога нельга зрабіць за не магчымасьцю хутка дастаць мэдыкамэнтаў. А хваробы ў стадку заўсёды зьяўляюцца раптоўна і патрабуюць для пасьпешнага змаганьньня з імі хуткага ўжываньня адпаведных зельляў. Умелая дапамога жывёле з боку гаспадара **пры пачатку** хваробы ці яе **прыкметаў**—ня раз можа ратаваць гаспадарку ад няпрадбачанае страты.

Вось, у гэтакіх выпадках мы заклікаем сваіх паважаных чытачоў не зварачвацца да шаптуноў, знахароў ці іншых сьвядомых або несьвядомых абадуралоў, жыруючых на сялянскае цемры, а лепш задавальняцца прастымі мэдыкаментамі, якіх кожны руплівы гаспадар у кожны момант можа мець пад рукою. Яшчэ раз падкрэсьліваем, што хуткае ужываньне іх спачатку хваробы затрымлівае ход хваробы, дае магчымасьць арганізму справіцца з недамаганьнем і гэтым самым папярэдзіць выдаткі ў гаспадарцы на лячэньне і нават страты жвёлы. Апроч таго, ня трэба запамінаць, што шмат прастых мэдыкаментаў—гэта вынік вякавых назіраньняў народу і таму варты на увагу нашае вёскі.

У гэтым нарысе падаемо характарыстыку важнейшых з гэтых мэдыкамэнтаў, якіх кожны гаспадар можа, і павінен мець пад рукой.

**Александрыйскі ліст.** Александрыйскі ліст, вядомы ў аптэках пад назовам „Лістоў сенны“ дабываецца ад некаторых відаў растущага ў дзікім стане ў Эгіпце і Нубіі кустоў квасія; даўна вядомы, як добрая звальняючая засоба; трэба толькі помніць, што добрага дзеяньня можна чакаць толькі ад зялёных, ці зялёнаватых лісткоў, а бурыя ці жоўтыя паказваюць на дрэннае перахоўваньне лісьця і карысьці ад ужываньня іх ня бывае.

Даюць александрыйскі ліст больш усяго дробнай жывёле. На шклянку вады кладуць 2—3 залатнікі лісьця і даюць па лыжцы цераз дзьве гадзіны, пакуль не настане звальненьня. У бальшой колькасьці лісту, а таксама цяжарным жывёлам у апошнія часы іх цяжарнасьці—даваць ня трэба.

**Піжма.** Піжма, ці дзікая рабінка, самае распаўсюджаная расьліна на Беларусі, зьяўлаецца добрым срэдствам проціў рыбацтва (глістоў), ад якіх часта мучаюцца нашы жывёлы. Пры ужываньні піжмы рыбацтва гіне ўжо цераз ¼ гадзіны і спыняюць, гэтакім чынам сваю шкодную для арганізму працу.

Піжму лепш усяго ўжываць парашком разам з сольлю у корме, што ахвотна паедаецца жывёлай. Бальшым жывёлам даюць порцыю піжмы ад 8 да 12 залат., а дробным—ад 2—4 зал., 3 разы ў дзень. Каб папярэдзіць зьяўленьне рыбацтва, карысна даваць нашым хатнім жывёлам піжму

2—3 разы на тыдзень і здаровым. Асабліва карысна піжма для авец, у якіх рыбацтва зьяўляецца ня толькі ў кішках, але і на лёгкіх, што выклікае кашэль. Піжму авечкі разам з сольлю паедаюць ахвотна.

**Рамонак** (раманькі, ромашка) і **бузіна**. Гэтыя агульна вядомыя расьліны, здаўна ў нас слынуць, як добра патагонныя, срэдства. Ужываюцца як настой з красак пры хваробах ад прастуды, рэўматызму, трасцы, ламотах, кольках у жываце, пры задержаньні мочы і інш.

Даюць цёплаваты атвар (хворым жывёлам 5—7 бутэляк) і адначасна ахутваюць хворую жывёлу дываном. Добрае дзеяньне атвар робіць хутка: жывёла супакойваецца і зьяўляецца ў яе пазыў на корм. Таксама і рэўматызм пры працяжных леках раманькамі і бузінай удаецца супакайваць, але тут трэба помніць, што скаціну трэба пільна берагчы ад сьцюжы, бо ў праціўным выпадку пры патагоных засобах можна жывёлу наразіць на прастуду горшую.

Апроч таго, рамонак (у 5% сьпіртавым настою) ужываецца як вонкавая засоба пры ранах, макрэцох, струпох і іншых скурных хваробах.

Рамонак ужываюць для прамываньня кішэчніка; нарэшце ўдыханьне пароў гарачага атвару карысна пры кашлю жывёлы, якая ад гэтых пароў выдзяляе макроту.

**Морква, пырнік**. Гэтыя расьліны розныя па свайму віду, аднальковы па фізіолёгічнаму дзеяньню на жывёлу. Ужываюцца для аблягчэньня выхаду калу з аднаго боку і для супакойваньня боляў—з другого.

Паступаючы ў арганізм, яны спрыяюць ачышчэньню крыві. Ужываюпца пры хваробах жывата, дыхацельных шляхоў, пры кашлю, пры залзах, дыхавіцы і інш. Даюць морквы рэзкай буйным жывёлам — 7—10 фунтаў, а дробным—2—4 ф.; пры гэтым сьвіньням, авечкам і козам лепш даваць моркву варанай. Пырнік (карыстаюцца звычайна толькі карэньнямі) даецца парашком ад 20 да 10 залатнікоў 2—4 разы ў дзень. Пырнік ужываецца яшчэ і для здабрываньня іншых зельляў, як напрыклад: нашыўру, любэрскай солі, дзёгця, сьвінцовых і жалезных солей і г. д. Калі гэтыя засобы пасыпаць парашком пырніку, дык скаціна болей ахвотна паядае.

**Цытворнае насеньне і корань папаратніку**. Ужываюцца проціў рыбацтва, дзеля чаго кожны селянін мусіць мець іх у сваей аптэцы. Цытворнае насеньне вярней, краскі і лісьцё аднаго туркестанскага віду расьліны Artemisia, да якога належыць і наш палын, даюць ад круглых рыбакоў да ½ фунта насеньня (з мукой і вадой) 2 разы ў дзень.

Карань мужскага папаратніку зьбіраецца ўвосень і высушаны перахоўваецца ў сухім месцы. Чым маладжы карань, тым лепшае аказвае дзеяньне. Ужываецца парашком жывёле $1/2$—$1/4$ фунта, а дробнай—1—5 лотаў.

**Дзёгаць.** Бярозавы дзёгаць здаўна вядомы з вясковай практыкі, як засоба процiў гніеньня. Ды і ў сучасны момант вэтэрынары часта ўжываюць яго пры старых гніючых ранах, дзякуючы чаму гніеньне хутка спыняецца. Асабліва добра смазваць хворыя капыты ў коней, роўна як розныя скурныя струпы. Ад дзёгцю гінуць жываеды (паразіты) на целе жывёлы. Дзёгаць ужываецца звычайна як мазь у сумязі: 1 частка дзёгцю і 2—6 часткак зялёнага мыла, ці 4—10 частак расьлінага масла. Перад смазваньнем хворае месца трэба абмыць цёплай вадой. Цераз некалькі дзён (4—7) мазь вымываюць і паўторна яе ўціраюць.

Дзегаць даюць жывёле і ў сярэдзіну для аблягчэньня выхаду макротаў пры апаленьні дыхацельных шляхоў. Для гэтага хворую жывёлу прымушаюць удыхаць пары дзёгцю ў працягу 10—15 мінут. Таксама дзёгаць ужываюць пры хваробах авечак на рыбацтва, якое пад уплывам пароў дзёгцю выкідваюцца вон. Наагул, дзёгаць рэкамэндуецца ўжываць авечкам, каб папярэдзіць розныя лёгачныя і кішэчныя хваробы.

Дзегаць даюць буйнаму скату ад 3—7 зал., а дробным 1—3 зал. камочкамі, зробленнымі на муцэ. Вядома, трэба браць заўсёды лепшы гатунак дзёгцю і абавязкава бярозавы.

**Воцат.** Добры сталовы воцат ужываецца як засоба жарапаніжаючая, пры галоўных хваробах і інш. У вэтэрынарыі ім карыстаюцца пры запаленьні грудзей, жывота, пры розных нагнётах, вывіхах, пры запаленьні вымя, капыт (на капыты звычайна кладзецца гліна, аблітая воцатам). Неразьведзены воцат ужываецца для зьнішчэньня бародавак і іншых дзікіх наростаў на целе.

Ужываецца воцат і пры нутраных хваробах і тут ён зьніжае тэмпэратуру арганізма, а таксама спрыяе выдзяленьню мочы. Даецца воцат у нутро са слаба падквашанай вадой. Нарэшце, уладае працівагніючымі асаблівасьцямі, воцат ужываецца з карысьцю пры болях жывота і кішак, як напрыклад пры ўздуцьці газамі.

**Гліцэрын.** Перш гліцэрын ужываўся для смазваньня капытоў, але цяпер даведзена, што, ён высушвае смазаны капыт, і хутчэй будзе шкодным для рага капыт. Ужываюць гліцэрын пры макрацу ў коней, пры корках, струпох на экуры. Часта для гэтага гліцэрын ужываецца ў сумязі з

крахмалам (1 частка крахмалу і 15 част. гліцэрыну). Карысна смазваць вымя пры яго запаленьні.

**Саліцылавая кіслата.** Саліцылавай кіслатой карыстаюцца часта для перахоўваньня прадуктаў ад псаваньня. Так, напр., рашчына гэтай засобы (1%) зьберагае мяса ад гніеньня, малако ад сьвертваньня, піво і віно ад акісьленьня.

У вэтэрынарыі ей карыстаюцца пры ранах, пры пашкадаваньні суставаў, пры хваробах сьлізістых плёнак, абмываючы хворыя месцы (1 ч. сал. кісл. і 500 ч. вады) 3 разы ў дзень

**Нафта** (нефць). Нафту ці горнае масла ў нутро жывёле даюць пры кольках, ўздуцьці жывёлы з пойлам (1 сталовая ложка на бутэльку пойла). Дробным жывёлам даюць 1/4 частку гэтае порцыі.

Вонкавае ўжываньне нафты больш распаўсюджана, асабліва ў сумязі з якім-небудзь расьліным жырам (1 част. нафты і 5 ч. жыра). Памагае процiў чужаедаў на целе, каросты і г. д. Мазью трэба мазаць хворае месца кожны дзень, смываючы перад гэтым пяпярэднюю мазь.

**Камфора.** Эта пахнючая матэрыя ўжываецца пры леках нутраных хвароб, каб супакоіць нэрвы і падняць сілы жывёлы, а таксама і вонкавых хвароб.

---

# Прышчэпка дзічкоў.

15 жніўня ў нас на Беларусі канчаецца тэрмін для прышчэпліваньня вачкаваньнем дзічкоў пладовых дрэў: яблынь, ігруш, сьліў, вішань і г. д.*). Хаця гэты спосаб мае шмат пераваг перад іншымі спосабамі, як напрыклад: прышчэпліваньне ўрашчэп, пад кару, але сяляне на Беларусі, асабліва старыя гаспадары, з ім мала знаёмы і рэдка дзе яго ўжываюць. Замест летняга вачкаваньня, звычайна дрэвы ў нас прышчэпліваюць вясной, па старым спосабам, што мае свае недахопы:

1) Кароны ўжо дарослых дрэў у месцы прышчэпліваньня часта надламываюцца і гэтым самым зусім псуюць дрэва.

2) Веснавы спосаб марудны.

3) Першы год дае вельмі малы паростак.

Гэтыя недахопы ўсуваюцца пры вачкаваньні, якое прыпасоўваецца да той пары, калі луб дзічкі перапоўнены сокам, які ідзе па шляху ад лісьця да карэньняў. Луб адстае у

*) Вачкаваньне пры нашых кліматычных умовах можна рабіць у нас з 15 ліпня па 15 жніўня.

розных відаў дрэў не ў аднолькавы час. Спачатку ён адстае ў вішань, сліў, ігруш і яблынь, дзеля чаго і вачкаваньне мусіць ісьці ў гэтым парадку.

Для памыснасьці працы пры вачкаваньню патрэбны наступныя умовы:

1) Дзічкі павінны быць 2—3 гадоў з мяккай карой у шыйцы.

2) Выбіраць пагоду без дажджу, але і ня жаркі дзень.

3) Зразкі браць з дрэў у веку 20—25 год.

4) Нож для вачкаваньня мусіць быць востры як брытва, чысты. Лепш для вачкаваньня мець спэцыяльны вачкавальны нож з косткай, пры дапамозе якой адхіляецца кара.

Незадоўга перад вачкаваньнем сразаюць сёлетвія паросткі тых парод, якімі мы маем прышчэпліваць дзічкі. На паростах ўжо ў гэты час вызначаюцца вочкі, з якіх лепш разьвітыя,—на сярэдзіне наросту. Каб яшчэ лепш гэтыя вочкі разьвіліся, пажадана ў пачатку лета ніжэйшыя і вяршковыя вочкі сашчыпліваць.

Паросткі для вачкаваньня зрэзваюцца з дрэва за некалькі газін перад самым прышчэпліваньнем і абявязкава ставіць у вядро з халоднай вадой. Усё лісьцё на зразках зрэзваюць так, каб заставаліся хвасткі, за якія трымаюць вочка ў часе прышчэпліваньня.

Самае вачкаваньне адбываецца так: спачатку вырэзваюць вочка (у яблыні, ігрушы з вельмі тонкім слоем драўніны, а ў сьлівы, вішні толькі з лубам, зусім без драўніны). Потым каля шыйкі, ня вышэй 2—3 сант. ад зямлі, робяць нажам надрэз ў форме літары Т. Кару адхіляюць косткай ножыка, устаўляецца вочка і зараз-жа туга абвязваецца спэцыяльным садовым варам, але ў навейшыя часы лепшыя садаводы ніякога змазваньня ня робяць і лічуць, што гэта лепш адклікаецца на прыжываньні вочка.

Да самае зімы гаспадар мусіць пільна сачыць, каб абвязка ня ўедалася ў кару і час-ад-часу яе аслабляе.

Праз 2 тыдні можна даведацца, ці прынялася прышчэнка: для гэтага трэба пацягнуць за хвосьцік вочка. Калі гэты хвост лёгка абрываецца, дык трэба судзіць, што вочка прынялося. У праціўным выпадку разам з хвастом выймаецца і самы зразок.

Акуратна зробленая прышчэпка дае магчымасьць добра перазімоўваць вочку пры нашых зімах.

У красавіку м-цу павязка зусім здымаецца і робіцца зрэзка на шып. Гэта вядзецца ў наступны спосаб: ўся каронка дзічкі зрэзваецца, а пакідаецца пянёк вышей вочка на 3 вярш. Тады ўсе сокі вясной пойдуць з караня да вочка, якое да восені дасьць галінку да $1^1/_2$ аршына вышынёй.

Процант няпрыняўшыхся вочак бывае каля 10%, у той час, як ад прышчэпліваньня ў іншы спосаб гэты процант бывае да 30 і больш.

Культурныя дзяржавы даўна заўважылі перевагу апісанага способу перад іншымі і націскаюць на ўсе садовыя ўстановы, каб прадавалі дрэвы толькі прышчэпленыя. вачкаванньем. У Радавых Рэспубліках заяўлена сялянам, што на выстаўках за прышчэпы, прышчэпленыя не вачкаваньнем, прэміяў выдавацца ня будзе.

Трэба думаць, што і нашы садаводы зьвярнуць больш пільную увагу на вачкаваньне і пакінуць дзядоўскія способы прышчэпліваньня.

**Б.**

# Грамаатводы на вёсцы.

Гарыць саломеная Беларусь. Што 20 гадоў уся наша Бацькаўшчына, яе дабытак аддаецца на корм „чырвонаму пеўню“. Што 20 год наш край перабудоўваецца, каб ізноў сваю працу і маёмасьць ператварыць у попел. Гіне ў вагні ня толькі маёмасьць, але і нашы гістарычныя помнікі, гінуць на рэшце і людзі, што ня ўсьпелі пры раптоўным пажару выскачыць з полымя хаця-б у ваднэй сарочцы. Жудаснае зьявішча што год ахватвае 1/20 частку нашае старонкі. Няма дзіву, што яна і пляцецца ў хвасьце іншых народаў, да якіх ніяк яшчэ ня можа далучыцца.

У пажарах мы—сяляне часта вінаваты самі. Абмінаючы гутарку пра выпадкі ад злых людзей, якім „зашорылі чмысьці вока“, а таксама і неасьцярожнае абходжаньне з вагнём, дзе вінавата наша нядбаласьць, мы тут зьвярнём увагу на пяруны.

Вось, селяне, з прыемнасьцю паслаў бы гэтых пярунаў у вашы забабоны, якія часта стаяць перашкодаю да нашага культурнага адраджэньня. Пакуль мы не зразумеем, што пяруны ёсьць ня кара за нашы віны, а звычайнае зьявішча атмасфэрнай электрычнасьці, якое выяўляецца ў форме пяруна,—пакуль ня будзем гэты стыхійны ўдар ухіляць разумным прыладжаваньнем граматводаў—да тых час мы ня пэўны, што заўтра выйдзем на вуліцу голымі і жабракамі.

Удараюць пяруны звычайна ў бydынкі, што стаяць на высокім месцы, або асобна без атачэньня высокіх дрэў, якія зьяўляюцца тут натуральнымі пяруна-атводамі.

Грамаатвод можа быць збудаваны на самым будынку, ці на асобным высокім слупу. Чым вышэй пастаўлен грамааттвод, тым на большую адлегласьць ён ахраняе будынкі ад маланкі *).

Прылады грамаатводаў складаюцца з трох частак:

1) Частка адбіраючая з паветра электрычнасьць.

2) Частка праводзячая гэту электрычнасьць да зямлі і

3) Часткі падземныя. Апроч таго, сюды трэба далічыць розныя ізалятары.

Усе часткі грамаатвода мусяць быць зроблены з металу, як добрага праваднікa электрычнасьці. Могуць быць яны жалезнымі, мядзянымі, ці цынкавымі. Жалезныя часткі трэба ацынкаваць, каб захаваць жалеза ад ржавеньня.

**Адбіраючыя часткі** грамаатвода —вострыя шпікі, звычайна яны масяндзовыя, шліфаваныя.

**Праваднікі** павіны мець выстарчаючую паверхніну, каб справіцца сільнаму току электрычнасьці. Яны мусяць быць праведзены так, каб і самі маглі служыць за адборнікі, гэта знача, праведзены там, дзе больш усяго месца наражана на пярун., напр. на вуглох страхі, з боку, наражонага на ветры і г. д

Найлепш пяруны рабіць на высокіх слупох.

**Пад'земную частку** складае асобыя плыты, ці металёвая сетка, якая закладаецца на ўзроўні грунтовых вод. **Сетка павінна быць заўсёгды добра і акуратна злучана з адбіральнікам.**

Для захаваньня металёвых частак—лепш іх пакрыць фарбай, ці смалой.

Увесь камплект матэрыялаў да грамаатводу можна набыць з электротэхнічных фірмаў. Каштуе каля 10 зл.

## Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Ці варта ў нас разводзіць культуру азімага ячменя і якая яго гаспадарчая вартасць?

Арсень Цішка.

**Адказ.** Азімы ячмень даўна разводіцца ў Заходняе Эўропе галоўным чынам, як зялёная паша і зялёнае ўгнаеньне. У нас ён у бязсьнежную зіму пры марозах 18° С прападае. Пасеў азімага ячменя адбываецца за тыдзень раней жыта. Глебы вымагае аднолькавай з пшаніцай. Поле асвабаджае ў канцы чэрвеня, альбо ў пачатку ліпеня. Свабоднае поле добра надаецца для другога ў тым-жа годзе ўраджаю—кармавой рэпы.

*) Тэхнікі кажуць, што гэта адлегласьць роўна вышыне слупа, на якім пастаўлен грамаадвод.

**Пытаньне.** Значная адлегласьць лесу ад нашае сядзібы прымушае нас пробаваць карыстацца торфом як апалам. Як яго ўжываць для гэтае мэты?

Зьмітрок Паўчук

**Адказ.** Торф заўсёды можна ўжываць на апал, які часамі бывае лепшы за дровы. Каб торф добра гарэў, трэба тарфяное балота пад наглядам тэхніка асушыць.

Торф добра гарыць у галяндзкіх, рускіх і іншых печах, асабліва калі печы з падуваламі. Каб ня было ніякога смуроду ад торфу, трэба зачыняць комін у печы тады, як усе вугалі добра перагараць. Там, дзе дзьверы ў печы шчыльна зачыняюцца, можна комін зачыняць, не чакаючы перагару вугалёў. Гаспадыня да торфу прызвычайваецца і не пашкадуе, што паліць торфам, а ня дрыўмі.

**Пытаньне.** Які гатунак люцэрны найлепей надаецца да нашых глебавых і кліматычных умоў.

К. Сьветавастокаў.

**Адказ.** Люцэрна нябеская — (Medicago sativa) найважнейшы гатунак роду Medicago. Можа ў нас разводзіцца, калі насеньне будзе походжаньня з Нямеччыны, ці Вэнгрыі. Глебы вымагае глыбокай, багатай вапнай і з лёгкім падгрунтам. Глебы цяжкія, іласатыя з камяністым падложжам для люцэрны не падыходзяць.

Люцэрна хмелявідная—(Medicago lupulina) менш за нябескую вымагае ад глебы і клімату, але дае і меншы ўраджай. Некаторыя гаспадары пробуюць яе сеяць у сумязі з чырвонай канюшынай.

Люцэрна швэцкая — (Medicago falcata) мала распаўсюджана. Гадзіцца на глебах сухіх і нават замяністым падгрунтам. Можа iсьці ў сумясь траў лугавых, як гатунак менш кволы да марозаў, сушы і макраты. Менш ураджайная за папярэднія гатункі.

Люцэрна пяшчаная—(Medicago media) гатунак сярэдні па якасьці між нябескай люцэрнай і швэцкай. Вымагае глебы лёгкай сухой і багатай вапнай. Баіцца высокага стаяньня грунтовых вод. Па ураджаю уступае нябескай. Можа даць два пакосы ў год, дзержыцца на адным месцы 3—6 гадоў (нябеская 4—8). Усе гатункі люцэрны трэба лепш сеяць на адпаведным куску зямлі, якія ня ўходзіяць у севазварот.

**Пытаньне.** Ці можна ў нас разводзіць экспарцэт і якой ён вымагае глебы.

К. Сьветавастокаў

**Адказ.** Экспарцэт—(Onobrychis sativa) ёсьць расьлінка паўднёвых краёў, дзе расьце вінаград. Будучы перанесена на поўнач, яна траціць свае ўласьцівасьці. На паўдні экспарцэт расьце на адным месцы да 15 гадоў. Расьце на глебах глінiстых і пяшчаных, маючых пад сабой грунт багаты вапнай. Глебы зьвязлыя, мокрыя, цяжкія для экспарцэта не надаюцца.

**Пытаньне.** Як змагацца з іржой на збожжы?

Павал Стасюк.

**Адказ.** Пэўных срэдстваў для зьнішчэньня зьявіўшайся на збожжы іржы—пакуль што няма. Трэба старацца аб ужываньні папераджаючых срэдстваў, да якіх належаць: 1) асушка мокрых грунтаў; 2) ужываньне фосфаравых (тамасоўка і супэрфасфат) і потасовых (патасовая соль і каліціт) угнаеньняў; 3) частае выкашваньне дзікарастучых траў на межах і ўзроўках; 4) вырубаньне кустоў барбарысу; 5) падбор адпорных на іржу гатункаў збожжа і 6) асьцерагацца ўжываць салому з іржой на подсьціл у гной.

**Пытаньне.** У мінулым годзе рэдакцыя „САХІ“ абяцала даць указаньні, як самому зрабіць дзяшавы культыватар. Набыць яго з фабрыкі—ня маю грошы, а супалкай—не ўдаецца намовіць сваіх суседзяў, якія яшчэ не асвабадзіліся ад старасьвецкіх паглядаў на гаспадарку. Ведаючы карысьць гэтае прылады, прашу ветліва даць мне падрабязныя інфармацыі, як можна самому зрабіць гэту машыну.

Янка Сычка

**Адказ.** Да гэтага часу рэдакцыя ня дала адказу на ваша пытаньне па прычыне арэшту былага рэдактара. Рысунак № 3 паказвае канструкцыю самадзельнага культыватара.



Рыс. 3.

**Пытаньне**. Парадзьце, што рабіць, як зьявіцца насос у каня?

П. Скальскі.

**Адказ.** Глядзіце адказ у парадах агранома кніжка „САХІ“ 9-ая за 1927 г. Камплект „САХІ“ за мінулы год можна набыць, за выняткам 1-ае кніжкі, у Рэдакцыі. Каштуе 2 зл., з перасылкай 2 зл. 25 гр.

**Пытаньне**. Маю невялікі кусок мокрае сенажаці. Парадзьце, ці можна яго асушыць закрытымі канавамі і які матэр'ял лепш надаецца для закладкі на дно канавы. На месцы маем шмат каменьня і хмызьняку.

Язэп Тадарук.

**Адказ**. Ня бачачы вашае сенажаці, трудна што-небудзь пра асушку за вочы сказаць. Паглядзеце 4—5 кніжку „Сахі“ за 1927 год. Як рабіць фашыны з хмызьняку, можна заўважыць з рысунку № 4.



Рыс. 4.

# Парады для гаспадынь.

## Смашны напой з хлеба.

Чорны жытні хлеб высушыць у печы, каб аж зарумяніўся, але не спаліўся. Тры фунты такіх сухароў дробна пакрышыць, усыпаць у чыстую драўляную пасудзіну і запарыць шасьцю гарцамі вады з укропам і паставіць у цёплым месцы на 24 гадзіны, пасьля дадаць тры дэка дражджэй і падзяржаць з імі некалькі гадзін, а то і цэлую ноч. Усю гэту мешаніну зьліць у новую пасудзіну так, каб гушча на дне засталася не парушанай на месцы. Чысты гэты тран засаладзіць цукрам (колькасьць тут цукру залежыць ад таго, як хто любіць) і разьліць у фляшкі ці бу-

тэлькі ня поўнымі і затыкаць пераваранными коркамі. Коркі трэба прывязаць, бо як стане тран „хадзіць“, дык коркі могуць выпхнуцца.

Хто любіць лёгкую горкасць—можна дадаць чыстага адвару хмелю.

Такі напой вельмі прыемны на смак, але перахоўвацца можа толькі некалькі дзён.

### Як прыгатовіць халодны цытрыновы квас.

Да заваранай гарачай вады дадаём столькі цытрынавага квасу, каб вада была кваснай. Як тран прастыне, трэба далажыць на кожныя 4 літры напою 1 дэк драждж эй, для смаку цукру ($^1/_2$ кілёгр.), а для паху хоць адну скурку цытрыны.

Гэты тран з драджжамі стаіць 12 гадзін, потым зьліваецца ў бутэлькі і моцна каркуецца.

Калі гэтага напою патрабуецца большую колькасць, дык можна тран зьліць проста ў чыстую бочку, добра яе закаркаваць і паставіць у халоднае месца. Цераз некалькі дзён напой гатовы для ўжываньня і проста з бочкі можна наліваць у бутэлькі для частаваньня гасьцей на банкеце ці забаве.

### Як зрабіць кампот.

Ягоды, трускаўкі, пазёмкі, маліна — зьмяшаць з цёртымі арэхамі ці мігдаламі, з бітаю сьмятанай, цукрам або мёдам, дадаўшы трохі цёртай цытрыновай скуркі. Укласьці добра і убраць смажанамі вішнямі або трускаўкамі.

Замест ягад можна ужываць яблыкі і паступаюць як апісана вышэй.

### Страва з ягад.

Шэсць шклянак сьвежых ягад перацёрці скрозь рэшата, паставіць у печы падагрэцца. У гэты час чатыры курыных жаўткі з цукрам (1—2 шклянкі) і лыжку бульбяной мукі добра перацёрці. Даліць тры шклянкі сьмятаны або малака, зьмяшаць з паловай расьцёртых ягад і паставіць ізноў у печ. Сумясь часта мяшаючы, трэба нагрэць, але ня даць закіпець. Потым дадаць рэшту расьцёртых ягад і разбавіць, колькі гэта трэба, кіпятком. Пакаштаваўшы, ці ня трэба цукру дадаць крошак сушонага пірога. Калі да ягад мы давалі малако—добра дадаць на кожную талерку лыжку густой, але сьвежай сьмятаны. Як чуецца на смак мала кісласьці—дадаць цытрыны або віна.

### Перахоўваньне яек на зіму.

Цяпер, калі яйкі на вёсцы прадаюцца дарма і купцы іх закупляць за граніцу асьцярагаюца, а куры пакуль

што нясуцца—добра яйкі захаваць да восені і нават да зімы. Яйкі, добра пераХованыя, і па шасьці месяцах будуць ня толькі годны для ўжытку для сябе, але і прадаюцца як сьвежыя.

Звычайным, а разам і найлепшым спосабам парахоўваньня яек—гэта перахоўваньне у попеле.

Для гэтага дно скрынкі ці іншай пасудзіны пасыпаем слоем попелу, а на яго ўкладаем сьвежыя, але халодныя яйкі так, каб яйко да яйка не прыціскалася. На яйкі ізноў пасыпаем слой попелу, а на попел яшчэ яйкі і г. д. Верхні слой попелу мусіць быць досыць тоўстым. Скрынку з яйкамі ставяць у сухім і халодным месцы. Галоўнае цяпер тут-асьцерагацца вільгаці, ад якой яйкі хутка псуюцца.

Месцамі перахоўваюць яйкі ў наступны спосаб: сьвежыя і астыўшыя яйкі смазваюць ільняным алеем, або макаюць у іншую тлустасьць, складаюць у скрынку з сухім пяском (лепш перапаленным) так, як апісана пры перахоўваньні з попелам.

У апошнія часы прадаецца гатовы прэпарат, **„Гарантоль“**, на пачках якога даюцца інфармацыі, як яго ўжываць.

Пры кожным з гэтых спосабаў, а асабліва пры перахоўваньні ў розных рашчынах, трэба пільна сачыць, каб паміж сьвежых яек не дасталася сапсаваных, ад якіх хутка псуюцца і ўсе яйкі.

# Наша пошта.

**Янку Міхалевічу.** 4 зл. у Рэдакцыю „Маланка“ перадалі.

**П. Сяўруку.** Увесь камплект „Сахі“ за 1927 г. выслалі трэці раз. Палецонымі друкамі „Саху“ высылаем, калі рэдакцыя атрымае на гэта 50 грошаў.

**Я. Сьмерчаку.** Дарма „Саху“ ніхто ад рэдакцыі не атрымлівае. Каб больш часапіс распаўсюдзіць сярод шырокай масы нашага сялянства, мы вызначылі мінімальную плату—3 зл. у год. Гэта плата даступна найбяднейшаму гаспадару. Раз ён ня выпісвае ея за грошы, дык думаецца, што яго мала абходзіць зямляробскі поступ і веда. Гэты тып беларускіх гаспадароў у адраджэньні нашага роднага зямляробства не адыграе ролю і пакуль што пакідаем яго спаць.

**Лявону Ганяку.** Шмат карэспадэнцыяў да „Сахі“ запорылася ў сувязі з арыштам былага радактара „Сахі“. Дзеля гэтага адказаў і парадаў мы даць не маглі. Дзякуем за прыхільнасьць да часапісі і думаем, што Вы пастараецеся яе распаўсюдзіць сярод больш сьвядомых гаспадароў у вашай ваколіцы. Каліб-б кожны падпішчык і чытач „Сахі“ прадбаў-бы яшчэ падпішчыкаў і чытачоў—гэтым ён аддаў-бы ўслугу адраджэньню нашага Краю. Праца пачэсная і ўдзячная, дык не запомніце пра гэта.

## Цэны у Вільні на збожжа 14.VII-1928 г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кіл. . . . . . | 54,00 зл. |
| Авёс „ „ . . . . . . | 57,00 „ |
| Ячмень для бровару . . . . | 57,00 „ |
| Ячмень на кашу . . . . | 57,00 „ |
| Вотрубі . . . . . . | 33 00 „ |
| Масла за 1 кіл. . . . . . | 5,20 |
| Сыры „ „ . . . . . . | 3,60 |
| Амэрыканскі даляр . . . | 8—88 |
| Залаты рубель . . . . | 4—70 |




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, вул. Св. Анны 2-3

**Выдавец і Рэдактар А. Уласаў.**